**Гродна**
№23 (529),
22 снежня 2019

www.slowo.grodnensis.by


# Слова Жыцця


ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ




# Нараджэнне Хрыстова – святло надзеі для кожнага з нас

***"Хвала на вышынях Богу, а на зямлі супакой людзям добрай волі!". Гэтым спевам анёлаў была абвешчана радасная навіна пра нараджэнне ў горадзе Давідавым, Бэтлееме, Божага Сына. Ён дзеля нас, людзей, і дзеля нашага збаўлення зышоў з Неба, уцелавіўся ад Святога Духа з Панны Марыі і стаўся чалавекам.***


*працяг на с. 3*




## Умілаваныя ў Хрысце Пану Браты і Сёстры! Дарагія Дыяцэзіяне!

*"Хвала на вышынях Богу, а на зямлі спакой людзям добрай волі" (Лк 2, 14). Гэты гімн радасці і праслаўлення спявалі хоры анёлаў у ваколіцах Бэтлеема ў ноч Божага Нараджэння. Сёння тыя ж словы гучаць на вуснах і ў глыбіні сэрцаў вызнаўцаў Хрыста ва ўсім свеце.*

*У святы Нараджэння Пана хвалім і праслаўляем Бога, які ў сваёй бясконцай любові да людзей здзейсніў штосьці неверагоднае: у Асобе свайго Сына Езуса Хрыста стаў сапраўдным Чалавекам, Эмануэлем – Богам з намі. Спрадвечнае Слова Нябеснага Айца "сталася целам і пасялілася між намі" (Ян 1, 14).*

*З прыходам у гэты свет Божы Сын пранікае ў штодзённасць чалавечага жыцця, каб адарыць жаданым спакоем нашыя сэрцы, якія – на жаль – так часта поўняцца смуткам, няўпэўненасцю і страхам. Божае Нараджэнне прыгадвае, што мы не адзінокія, што на дарогах зямнога пілігрымавання нам спадарожнічае Езус Хрыстус, якога штодзённа сустракаем там, дзе знаходзімся: у родных дамах, у месцах вучобы і працы, у мітусні гарадоў і зацішку вясковых ваколіц.*

*У Асобе Езуса Хрыста Пан Бог гарантуе кожнаму сваю бязмежную, безумоўную любоў, якая нікога не выключае і ні пра каго не забываецца. Каб дасведчыць гэтую Божую любоў, дастаткова проста прыняць яе як дар, адкрыць на яе сваё сэрца і дазволіць, каб у ім пасялілася. Няма большага шчасця, чым адчуваць любоў Бога і верыць, што ў Асобе Сына Нябесны Айцец прысутны з намі, а мы – з Ім!*

*У гэты святочны час складаю ўсім Вам, дарагія Браты і Сёстры, свае сардэчныя пажаданні. Езус Хрыстус нарадзіўся зноў, каб асвяціць і пераманіць сваёй ласкай нас, нашы сем'і, парафіяльныя супольнасці і ўсё грамадства... Няхай праўда аб прыходзе ў свет Божага Сына абудзіць радасць, умацуе надзею, распаліць любоў у кожным чалавечым сэрцы. Няхай Добрая Навіна аб Богу, які стаў адным з нас, зробіць нас здольнымі заўважаць Яго ў бліжніх.*

*Жадаю Вам поўных радасці, спакою і ўзаемнай любові свят Божага Нараджэння. Памятаю пра ўсіх у малітве перад яслямі нованароджанага Збаўцы і прашу для кожнага аб добрым здароўі, святле Святога Духа, моцнай веры, Божым блаславенні, шчодрых ласках і дарах у надыходзячым новым 2020 годзе!*

*З пастырскім блаславеннем*
*Аляксандр Кашкевіч*
*Біскуп Гродзенскі*

**"Бог любіць незалежна ад таго, наколькі мы грэшныя". Папа Францішак**

# РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### IV НЯДЗЕЛЯ АДВЭНТУ

**Мц 1, 18–24**

Такім было нараджэнне Езуса Хрыста: пасля заручынаў Маці Ягонай Марыі з Юзафам, перш чым пачалі жыць разам, Яна зачала ад Святога Духа. Юзаф жа, муж Яе, будучы справядлівым і не хочучы зняславіць Яе, хацеў патаемна адпусціць Яе. Калі ён надумаў гэта, вось анёл Пана з'явіўся яму ў сне і сказаў: "Юзэфе, сыне Давіда! Не бойся прыняць Марыю, жонку тваю, бо тое, што нарадзілася ў Ёй, ёсць ад Святога Духа. Яна ж народзіць Сына, і дасі Яму імя Езус, бо Ён збавіць народ свой ад ягоных грахоў. А ўсё гэта сталася, каб збылося сказанае Панам праз прарока, які кажа: «Вось Дзева зачне і народзіць Сына, і дадуць Яму імя Эмануэль», што азначае «з намі Бог»". Абудзіўшыся ад сну, Юзаф зрабіў, як загадаў яму анёл Пана, і прыняў жонку сваю.

### ЗНАЙСЦІ ЛАСКУ Ў БОГА

Звеставанне належыць да найпрыгажэйшых сцэн з Евангелля, паказвае сустрэчу любові Бога і чалавека. Анёл называе Марыю поўнай ласкі і абвяшчае, што Пан з Ёю. Гэтая важная праўда аб тым, што Бог выходзіць да чалавека з ініцыятывай. Аднак Яго любоў прагне быць узаемнай.

Натуральным шляхам развіцця любові з'яўляецца імкненне прыносіць плён. Гэта ён сведчыць аб харастве і сапраўднасці міжасобасных зносін. Плодам сустрэчы Бога з Марыяй стала цудоўнае зачацце Езуса, здзейсненае праз Святога Духа. У нашым жыцці назіраем нешта падобнае. Кожны чалавек перажывае ўласнае звеставанне і атрымлівае запрашэнне прынесці плод. Такім чынам, у нас прагне нарадзіцца Хрыстос, каб людзі і збаўляць. Прымаючы Божую ласку, як Марыя, дазваляем Пану здзяйсняць цуды ў жыцці.

**Ці прыносяць плён мае штодзённыя словы і ўчынкі? Як супрацоўнічаю з ласкай, дадзенай мне Панам?**

### СВЯТА СВЯТОЙ СЯМ'І

**Мц 2, 13–15. 19–23**

Калі мудрацы адышлі, вось, анёл Пана з'явіўся Юзафу ў сне і сказаў: "Устань, вазьмі Дзіця і Маці Яго і ўцякай у Егіпет, і будзь там, пакуль не скажу табе; бо Ірад будзе шукаць Дзіця, каб загубіць Яго". Ён устаў, узяў Дзіця і Маці Яго ноччу і пайшоў у Егіпет, і быў там да смерці Ірада. Так збылося сказанае Панам праз прарока: "З Егіпта паклікаў Я Сына Майго". А калі Ірад памёр, вось анёл Пана з'явіўся ў сне Юзафу ў Егіпце і сказаў: "Устань, вазьмі Дзіця і Маці Яго ды ідзі ў зямлю Ізраэля, бо памерлі тыя, хто хацеў забіць Дзіця". Ён устаў, узяў Дзіця і Маці Яго і прыйшоў у зямлю Ізраэля. Але пачуўшы, што ў Юдэі валадарыць Архелай замест бацькі свайго Ірада, пабаяўся ісці туды. І, атрымаўшы ў сне наказ, пайшоў у Галілейскую зямлю. Прыйшоўшы, пасяліўся ў горадзе, які называецца Назарэт, каб збылося сказанае прарокамі, што Ён будзе названы Назаранінам.

### ДАЦЬ БОГУ ПАКІРАВАЦЬ САБОЙ

Жыццё Святой Сям'і было поўнасцю падпарадкавана Езусу. Ад моманту звеставання як Марыя, так і Юзаф дасканала ведалі: пакліканы да чагосьці, што іх пераўзыходзіць. А Бог нястомна чуваў над імі.

Калі жыццё Дзіцяці аказалася пад пагрозай, Нябесны Айцец паслаў свайго анёла, каб у сне наказаў Юзафу з сям'ёй уцякаць у Егіпет. Па-людску прыняць такое рашэнне было вельмі складана, бо гэта азначала, што трэба пакінуць усё: сваякоў, сяброў, родны дом – і вырушыць у невядомае. Дзякуючы непахіснай веры ў Божае кіраванне і любоў да Езуса Марыя і Юзаф без ваганняў прынялі цяжкасці вандравання, каб толькі зрабіць усё, што ў іх сілах, і забяспечыць чалавечую бяспеку Сыну Найвышэйшага.

Сучасныя сем'і таксама часта падвержаны разнастайным цяжкасцям. Многія з іх перажываюць крызісы, якія нярэдка заканчваюцца разводам, унутраным разладам і цярпеннем дзяцей...

Адзначаючы свята Святой Сям'і, молімся за ўсе сем'і, каб, застаючыся вернымі Богу і Яго наказам, змаглі справіцца з праблемамі, а таксама вучыліся прабываць у гармоніі са Стварыцелем.

**Як успрымаю бліжэйшых членаў сваёй сям'і?**

**Што лічу самым складаным у адносінах з блізкімі асобамі?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

---

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Нараджаецца Бог!

*Стварыцель па-асабліваму любіць чалавека. Пасля першароднага граху не пакідае яго ў адзіноце, але адорвае збаўленнем, рашаючыся на цудоўны крок. Бог прымае чалавечую натуру. Слова становіцца Целам (параўн. Ян 1, 14).*

Божае Нараджэнне выражае неспасціжную праўду пра Усявышняга, які створаную Ім рэчаіснасць незвычайным чынам упарадкаваў, а чалавека, створанага па Яго вобразе, узвысіў, адорваючы самасвядомасцю, вольнасцю і здольнасцю прымаць рашэнні. Гэта таксама містэрыя любові і веры, якая абуджае ў людзей пачуццё бяспекі, мужнасць і надзею. Хрыстос прыходзіць, каб мы не былі самотнымі, каб не баяліся... Ён сведчыць, што пасланы як Эмануэль, г. зн. з намі Бог.

Божае нараджэнне з'яўляецца таямніцай, якая датычыць чалавецтва ў цэлым. Прыход Езуса на зямлю мае істотнае значэнне для ўсяго стварэння. Праз Уцелаўленне Пан перамяняе гісторыю народаў, кожнага адорваючы шансам на шчаслівую вечнасць у Небе. Усе, хто верыць у Божага Сына, будуць збаўлены.

Святкаванне Нараджэння Збаўцы не палягае на пошуку бліскучых агеньчыкаў ці падарункаў, аб'яданні смачнымі абедамі і вячэрамі, але на распальванні полымя любові ва ўбогім гроце Бэтлеема свайго сэрца. Спасцігнуць сапраўдны сэнс гэтых свят мы зможам, калі, як св. Юзаф, вызвалім месца для цішыні; калі, як Марыя, скажам Богу: "Вось я"; калі, як Езус, будзем побач з тымі, хто самотны; калі, як пастухі, пакінем свае падворкі, каб пакланіцца нованароджанаму Каралю...

Давайце правядзём урачыстасць Божага Нараджэння ў духу ўзаемнай любові. Будзем радавацца, бо Дзіцятка Езус знаходзіцца сярод нас цяпер і назаўсёды.

**Дарагія Чытачы!**

***Ад імя рэдакцыйнага калектыва жадаю Вам спакойнага і плённага перажывання свят Божага Нараджэння, багатага на сюрпрызы ад Хрыста! Няхай Дзіцятка Езус паглыбляе нашу веру, умацоўвае надзею, а сэрцы напаўняе любоўю. Жадаю, каб усе мы ў гэты святы час сталі сучасным Бэтлеемам, дзе можна пачуць голас Пана.***

***Бласлаўлёных свят Божага Нараджэння і шчаслівага новага 2020 года!***

# Абрад вігілійнай вячэры ў сям'і

*Божае Нараджэнне – адно з самых урачыстых свят у хрысціянскай традыцыі. Яго Вігілія з'яўляецца прыгожым і кранальным часам для кожнай сям'і. Перажыванне яе ў духу еднасці, супольнасці і любові набліжае атмасферу бэтлеемскай ночы. Глыбокае ўспрыняцце гэтага вечара яднае родных, пакідаючы ў сэрцы прыемныя ўспаміны.*

### Парадак вігілійнай вячэры

На цэнтральным месцы ў пакоі ставяцца яслі з фігурай Дзіцятка Езус. Стол засцілаецца белым абрусам (можна аздобіць яго яловымі галінкамі). Пад абрусам змяшчаецца сена. Пасярэдзіне стала ставіцца вігілійная свечка, святло якой з'яўляецца сімвалам прысутнасці Хрыста. Побач кладзецца Біблія і аплатка.

Калі на небе з'яўляецца першая зорка, на ўспамін бэтлеемскай зоркі, сям'я збіраецца за вігілійным сталом. Адно месца пакідаецца вольным як знак памяці пра памерлых блізкіх і пра падарожнікаў, якія неспадзявана могуць пастукацца ў дзверы. Усе стаяць, а старэйшы член сям'і запальвае свечку. Пасля гэтага кажа: *"Гэта Святло, якое сённяшняй ноччу прыйшло на зямлю, каб рассеяць цемру граху".*

***Усе адказваюць:*** *"Дзякуй Богу".*

***Кіраўнік:*** *"У імя Айца і Сына, і Святога Духа".*

***Усе:*** *"Амэн".*

Бацька ці старэйшая асоба з сям'і чытае фрагмент Евангелля паводле Лукі:

*"У тыя дні выйшаў загад ад цэзара Аўгуста зрабіць перапіс па ўсёй зямлі. Гэта быў першы перапіс падчас панавання Кввірынія ў Сірыі. І пайшлі ўсе запісвацца, кожны ў свой горад. Пайшоў таксама і Юзаф з Галілеі, з горада Назарэта, у Юдэю, у горад Давіда, званы Бэтлеем, бо ён быў з дому і роду Давіда, каб запісацца з Марыяй, заручанай з ім, якая была цяжарнай. А калі яны былі там, надышоў Ёй час нарадзіць. І нарадзіла Сына свайго першароднага. І спавіла Яго, і паклала ў яслі, бо не было ім месца ў заездзе.*

*У той ваколіцы былі на полі пастухі, якія вартавалі ўначы свой статак. Раптам з'явіўся ім анёл Пана, і хвала Пана асвяціла іх, і вялікі страх ахапіў іх. І сказаў ім анёл: «Не бойцеся, я абвяшчаю вам вялікую радасць, якая будзе для ўсяго народа, бо нарадзіўся вам сёння ў горадзе Давіда Збаўца, які ёсць Хрыстус Пан. І вось вам знак: знойдзеце Немаўля спавітае і пакладзенае ў яслях». І раптам з'явілася з анёлам вялікае войска нябеснае, якое праслаўляла Бога і ўсклікала: «Хвала на вышынях Богу, а на зямлі спакой людзям добрай волі»" (Лк 2, 1–14).*

*Гэта слова Пана.*

***Усе:*** *"Хвала Табе, Хрыстэ".*

Затым спяваецца калядка.

### Супольная малітва

Бацька ці маці прамаўляе просьбы, усе адказваюць: *"Выслухай нас, Пане!".*

***К:*** *"Божа, наш Ойча, у гэтую ўрачыстую гадзіну праслаўляем Цябе і дзякуем за ноч, калі паслаў у свет свайго Сына Езуса Хрыста, нашага Пана і Збаўцу. Просім Цябе, удзялі нашай сям'і дар любові, згоды і супакою. Цябе просім...".*

***У:*** *"Выслухай нас, Пане!".*

***К:*** *"Адары нашых суседзяў, сяброў і знаёмых спакоем гэтай ночы. Цябе просім...".*

***У:*** *"Выслухай нас, Пане!".*

***К:*** *"Усіх пакінутых, самотных, хворых, бедных, галодных ва ўсім свеце суцеш і ўмацуй Добрай Навіной гэтай святой ночы. Цябе просім...".*

***У:*** *"Выслухай нас, Пане!".*

***К:*** *"Нашых памерлых* (пералічыць імёны) *адары шчасцем і святлом Тваёй хвалы. Цябе просім...".*

***У:*** *"Выслухай нас, Пане!".*

***К:*** *"Пане Божа, Ты ўчыніў, што гэтая святая ноч заззяла бляскам сапраўднага святла Твайго Адзінароднага Сына. Учыні, каб і мы яснелі бляскам Твайго святла ў сваім штодзённым жыцці. Праз Хрыста, Пана нашага. Амэн".*

***У:*** *"Ойча наш...".*

### Ламанне аплаткай і пажаданні

Абрад ламання аплаткай вучыць, што нават апошнім кавалкам хлеба трэба дзяліцца з бліжнімі, і разам з тым прыгадвае, што Божы Сын стаў Чалавекам і ўстанавіў Эўхарыстыю.

***К:*** *"А цяпер у духу любові і прабачэння падзелімся аплаткай – хлебам любові. Зычліва раскрываючы свае сэрцы ва ўзаемнай любові, мы адкрываем іх на прыход Пана. У Ім кожны чалавек знойдзе дабрыню і сяброўства. Няхай Бог заўсёды будзе ў нашым доме".*

Бацька сям'і складае пажаданні і ламаецца аплаткай спачатку з маці, а затым з астатнімі членамі сям'і. Тое ж робяць усе прысутныя.

### Спажыванне вячэры

На стол падаюцца толькі посныя стравы і безалкагольныя напоі. Спажыванне вячэры павінна праходзіць ў атмасферы сямейнай зычлівасці.

### Малітва пасля вячэры

***К:*** *"Дзякуем Табе, Божа, наш добры Ойча, за Сына Твайго Езуса Хрыста. Дзякуем за любоў да ўсіх людзей, за гэты вігілійны вечар і дары, якія мы спажывалі. Табе хвала на вякі".*

***У:*** *"Амэн".*

Пасля вячэры святочны настрой падтрымліваем спевам калядак і ўзаемным адорваннем падарункамі. Каля елкі чакаем Пастэркі, на якую, па меры магчымасці, накіроўваемся ўсёй сям'ёй.



● працяг са с. 1

# Нараджэнне Хрыстова – святло надзеі для кожнага з нас

***Божае Нараджэнне – адно з самых светлых і прыгожых свят, напоўненае атмасферай усеагульнай згоды і любові. Аб тым, як належыць перажываць гэты асаблівы час, размаўляем з дапаможным біскупам Гродзенскай дыяцэзіі Юзафам Станеўскім.***

***– Ваша Эксцэленцыя, распавядзіце, калі ласка, якія традыцыі святкавання Божага Нараджэння існуюць у Вашай сям'і.***

– Дзякаваць Богу, я з дзяцінства спазнаў традыцыю святкавання Божага Нараджэння ад сваіх родных, дзядулі і бацькі. Цяпер унукі і праўнукі сям'і Станеўскіх яе падтрымліваюць.

Мы заўсёды стараемся перажываць гэтае свята разам. Сёння ўжо збіраемся ў складзе 4-ох пакаленняў. Едзем да мамы, у дом, што ў Заневічах. Мужчынская палова ставіць ялінку і стол. Праўнукі (старэйшай праўнучцы ўжо 14 гадоў) па-святочнаму ўпрыгожваюць дрэўца. Старэйшы брат прыносіць сена. На стол засцілаецца белы абрус, ставяцца на талерачцы аплаткі, запальваецца вігілійная свечка "Карытас". Абавязкова пакідаецца месца для падарожніка (я не ўжываю выраз "пустая талерка", бо пакладзеныя прыборы з любоўю чакаюць госця).

Калі на небе з'яўляецца першая зорка, і ўсе ўжо сабраліся, распачынаем малітву: адгаворваем 7 пацераў і кароткі катэхізіс, узгадваем памерлых. Затым чытаем Евангелле аб Нараджэнні Езуса Хрыста, дзелімся аплаткай, складваем пажаданні. Пасля наступае спажыванне вячэры – 12 страў. Цяпер ужо праўнукі падлічваюць, каб сапраўды іх было не менш. Потым спяваем калядкі, дзеці і моладзь чытаюць вершы аб Божым Нараджэнні, і, канешне, адорваем адзін аднага падарункамі. Затым едзем у касцёл на Пастэрку. Калі вяртаемся дадому, першымі ўваходзяць дзеці. Яны спяшаюцца адшукаць пад сенцам на стале цукеркі – падарунак ад св. Мікалая для самых паслухмяных.

Ужо больш за 20 гадоў у маёй роднай парафіі існуе цудоўная традыцыя: пасля Пастэркі дзеці чытаюць перад прысутнымі вершы, спяваюць калядкі, за што атрымліваюць ад старшыні касцёльнай рады салодкі пачастунак. Дарэчы, дзеці вельмі ахвотна прымаюць удзел у гэтых выступленнях. Нават прыезджыя хлопчыкі і дзяўчынкі з імпэтам імкнуцца прадэманстраваць перад мясцовымі парафіянамі сваё здольнасці.

***– Якое Божае Нараджэнне найбольш яскрава?***

– Гэтае свята такое ўрачыстае і такое прыгожае, што з кожнага года можна было б напісаць успамін. Калісьці за сямейным вігілійным сталом нас было 6 чалавек, цяпер – 30. Першай да нашай сям'і далучылася жонка брата Марыя. Потым – швагры Рамуальд і Станіслаў. Нарадзіліся першыя ўнукі, праўнукі... Для нас важна было захаваць хрысціянскую традыцыю. Дзякуючы зграната ўдзельнікаў, пад зоркім вокам мамы вігілійная вячэра ў бацькоўскім доме адбываецца нязменна, пачынаючы з 1958 года. Калі я некалі запытаў у таты, як Вігілія праходзіла раней, калі мяне яшчэ не было, ён сказаў: "Як і сёння, толькі чакалі цябе!". Цяпер жа, калі таты ўжо няма з намі фізічна, адчуваем яго духоўную прысутнасць, бо захоўваем традыцыю, якую ён на працягу гадоў падтрымліваў.

***– Як мы, вернікі, павінны сустракаць Божае Нараджэнне? Якія абавязковыя складнікі плённага перажывання гэтага свята?***

– Хрыстос нарадзіўся – Бог аб'явіўся. Так вітаем у святы адзін аднаго. Бог сярод нас. Варта прыняць дадзеную праўду з чыстым сэрцам і палаючай душой. Што датычыць складнікаў плённага перажывання свята, то Святы Айцец Францішак 1 снежня ў Грэча, што ў Італіі, падпісаў Апостальскі Ліст "Admirabile signum" аб цудоўным знаку бэтлеемкі. Менавіта ў ім можам знайсці падказку: "Дарагія! Давайце будзем атаясамліваць сябе з Марыяй, якая паклала свайго Сына ў яслі, бо не было для Іх месца ў доме. Разам з Ёй і са св. Юзафам, Яе Абраннікам, накіруйма свой позірк на Дзіцятка Езус. Яго ўсмешка, якая зззяе ўначы, няхай рассее абыякавасць і адкрые на радасць сэрцы тых, хто адчувае, што любімы Нябесным Айцом".

***– У сучасным свеце ёсць шмат людзей, якія страцілі Бога ці яшчэ не знайшлі дарогі да Яго, таксама ёсць тыя, хто свята прыйсця Хрыста ў свет будуць сустракаць у самоце. Якія словы маеце да іх скіраваць?***

– Папа Бенедыкт XVI казаў: "Там, дзе любоў, прабачэнне і згода – там Божае Нараджэнне". Дзіцятка Езус сёння сярод нас. Усемагутны дазваляе прытуліць сябе, каб ніхто больш не пачуваўся самотным і адкінутым. Хто не паверыць у гэта, застанецца замкнёным на сваім шляху да шчасця, адзін у абраным вандроўцы.

Калі не ведаеш, дзе мора, ідзі за патокам ракі, яна давядзе да мэты. Калі не ведаеш, дзе можна сустрэць сёння Бога, ідзі за тымі, хто Яго ўжо сустрэў і накіроўваецца насустрач нованароджанаму Дзіцяці. З пакорлівым даверам, а не з пыхлівай заўзятасцю: немагчыма, каб Бог стаў безабаронным. Як піша папа Францішак, Божае Нараджэнне, Батлейка – гэта нібы жывое Евангелле. Яно паказвае пяшчоту Створцы і тое, што Ён апускаецца да нашай мізэрнасці.

***– Што сваім прыходам у свет гаворыць Божае Дзіця, і што мы павінны Яму адказаць?***

– Ва ўзгаданым вышэй Лісце папа Францішак піша, што ў Батлейцы пачынае "біцца сэрца" ў той момант, калі святар кладзе туды фігурку Дзіцятка Езус. Усё для Яго і дзеля Яго, а Ён – для чалавека. Гэта праўда, што зорнае начное неба з'яўляецца сімвалам нашай самотнасці, пакінутасці сярод жыццёвых турбот. Але ззянне Бэтлеемскай зоркі паказвае, што Бог не пакідае нас адных, што сярод змроку жыцця ёсць святло Яго Любові. Хрыстос прыходзіць у свет, каб даваць новае жыццё, лячыць і адбудоўваць. Быць паслухмяным Божай Волі і Божаму плану Збаўлення – вось дэвіз для нас сёння.

***– Як сёлета будзе выглядаць Ваша святкаванне Вігіліі і Божага Нараджэння?***

– Бог так кіруе, што амаль кожны год я перажываю Вігілію з роднымі, а свята Божага Нараджэння адзначаю ў адной з парафій дыяцэзіі. У гэтым годзе мяне запрасіў на Пастэрку кс. канонік Алег Дуль, пробашч парафіі св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску. Дарэчы, у гэтым горадзе ў 1995 годзе я распачынаў сваю душпастырскую паслугу. Таму вяртаюся туды з радасцю і задавальненнем.

***– Што б Вы хацелі пажадаць чытачам "Слова Жыцця" на надыходзячыя святы?***

***– Любыя Браты і Сёстры, дарагія Чытачы нашай дыяцэзіяльнай газеты! Хрыстос нарадзіўся – Бог аб'явіўся. Няхай Вашыя сэрцы жывуць Богам і б'юцца для іншага чалавека. Жадаю, каб 2020 год Панскі на нашай Бацькаўшчыне быў і далей напоўнены мірам, дабрабытам і братняй любоўю. Усім благаслаўлёных Свят і шчаслівага новага года!***

*Кінга Красіцкая*

---

## Слова для жыцця

*Папа Францішак*



*Мір – гэта каштоўнае дабро, аб'ект нашай надзеі, да якога імкнецца ўсё чалавецтва. Надзея на мір з'яўляецца людской паставай, якая ўключае ў сябе экзістэнцыяльнае напружанне, з-за якога нават часам цяжкую сучаснасць "можна перажываць і прымаць, калі яна мае нейкую мэту і калі ў ёй можам быць упэўнены, калі мэта настолькі вялікая, што апраўдвае цяжкасці шляху" (Spe salvi, 1). Дзякуючы гэтаму надзея з'яўляецца цнотай, якая загадвае нам вырушыць у дарогу, дае крылы, каб рухацца наперад, нават калі перашкоды здаюцца непераадольнымі.*

*Чалавечая супольнасць мае ў памяці і целе прыкметы войнаў і канфліктаў, якія наступалі адзін за адным з усё большымі магчымасцямі разбурэння і якія не перастаюць закранаць асабліва самых убогіх і слабых. Нават цэлым народам цяжка вызваліцца з путаў эксплуатацыі і карупцыі, што распальваюць нянавісць і насілле. Да сёння многім мужчынам і жанчынам, дзецям і пажылым людзям адмаўляецца ў годнасці, фізічнай недатыкальнасці, свабодзе, у тым ліку свабодзе веравызнання, супольнаснай салідарнасці і надзеі на будучыню. Шмат нявінных ахвяр пераносяць пакуты прыніжэння і выключэння, жалобы і несправядлівасці, нават цялесныя пашкоджанні ў выніку сістэматычных жорсткіх ганенняў супраць свайго народа і сваіх блізкіх...*

*Любая сітуацыя пагрозы выклікае недавер і канцэнтрацыю на сваім статусе. Недавер і страх узмацняюць крохкасць адносін і пагрозу насілля ў заганным коле, якое ніколі не можа прывесці да мірных адносін. Таму нават ядзернае стрымліванне можа стварыць толькі ілюзорную бяспеку.*

*Не можна разлічваць на захаванне стабільнасці ў свеце праз страх знішчэння, у вельмі нестабільнай раўнавазе, падвешанай на мяжы ядзернай бездані і зачыненай у сценах абыякавасці, дзе прымаюцца сацыяльна-эканамічныя рашэнні, якія адкрываюць шлях да драмы непрыняцця чалавека і стварэння, замест клопату адно пра аднаго.*

*Мы павінны імкнуцца да сапраўднага братэрства, заснаванага на сумесным паходжанні ад Бога, братэрства, рэалізаванага ў дыялогу і ўзаемным даверы. Імкненне да міру глыбока ўкаранілася ў сэрцы чалавека, і мы не павінны адмаўляцца, згаджаючыся на штосьці, што было б меншае за яго.*

*Фрагмент Паслання на 53-ці Сусветны дзень міру*

# БОГ МЯНЕ ЛЮБІЦЬ!

*Мы стаім на парозе свят Божага Нараджэння. Гэтая ўзнёслая ўрачыстасць прыгадвае пра бязмежную любоў Стварыцеля да людзей. Для нашага збаўлення Ён паслаў на зямлю свайго Адзінароднага Сына, дазволіў Яму нарадзіцца ва ўбогай стайні, а пасля прыняць смерць на крыжы. Ці ўсведамляем гэтую Ісціну? Ці ўсведамляем, што Бог любіць нас, нягледзячы на недасканаласць і падзенні? Чым для нас з'яўляецца Яго любоў? Ці здольны заўважыць яе ў штодзённым жыцці?*

***Кл. Віталій:*** *У маім разуменні любоў Бога з'яўляецца абсалютнай любоўю. Яна не падобная на любоў чалавека, на любоў гэтага свету. Любоў Пана вечная і дасканалая, як агонь, які ніколі не пагасне. Крыніца бязмежнай любові знаходзіцца ў самім Богу, з'яўляецца Яго сутнасцю. Ніхто не здольны спыніць яе ці перамагчы. Гэта яна перамагае ўсё: пыху, падман, здраду, грэх… Адчуваю Божую любоў штодзённа. Прачынаюся раніцай і разумею, што Пан дае мне гэты дзень для таго, каб вучыўся любіць Яго яшчэ мацней. Любоў Пана дапамагае пераадольваць усякія нягоды, духоўныя праблемы, фізічныя цярпенні. Дзякуючы ёй гляджу на любое выпрабаванне трохі інакш: Езус паміраў на крыжы з любоўю, таму я таксама стараюся ўсё прымаць з любоўю.*

***Марыя, 23 гады:*** *Божая любоў з'яўляецца выключным дарам у жыцці кожнага хрысціяніна. Аднак чалавек часам можа адчуць яе толькі ў цяжкія хвіліны. І я не выключэнне. Калі маё жыццё напоўнілі боль і роспач, перабольшаныя з-за ўзросту, таму што выпалі на перыяд сталення, Пан дазволіў, каб спазнала, як моцна мяне любіць. Сёння, перажыўшы той складаны досвед, заўважаю любоў Стварыцеля штодзённа: у клапатлівым поглядзе каханага чалавека, ва ўдалай страве, якую прыгатавала, у спазняючымся аўтобусе, на які б інакш не паспела і не дабралася б на працу своечасова… Любоў Бога паўсюды. Важна толькі, ці хочам яе заўважыць…*

***Марыя, 25 гадоў:*** *Атаясамліваю любоў Пана Бога з усім сваім жыццём. Гэта дзякуючы ёй я існую на гэтым свеце. Ніхто не здольны любіць мяне (нават я сама) такой прыгожай любоўю, як Пан. Дзякуючы бязмежнай любові Бога, штодзённа прачынаюся, маю сям'ю, сяброў, працу, вучобу – усё… Нядаўна пачала ўспрымаць як знак Божай любові таксама жыццёвыя выпрабаванні і "нявыслуханыя" просьбы. Бо часам бацькі павінны адмаўляць свайму дзіцяці ў нечым дзеля яго ж дабра, а ўрачэбныя маніпуляцыі неаднойчы прычыняюць пацыенту боль, каб пазней прынесці палёгку…*

***Пшэмыслаў, 24 гады:*** *Для мяне любоў Бога асабліва выразная падчас св. Імшы. Калі знаходжуся ў касцёле, адчуваю супакой, унутраную цішыню. Бог дае такі вымушаны перапынак – часам вельмі мне неабходны. Нават пасля момантаў рассеянасці падчас Эўхарысты я часта заўважаў, што менавіта там усё ў маім жыцці неяк упарадкоўваецца і становіцца на свае месцы.*

***Андрэй, 15 гадоў:*** *Любоў Бога з'яўляецца для мяне чымсьці асаблівым. Яна не мае межаў. Нябесны Айцец аддаў у ахвяру свайго Адзінароднага Сына з любові да чалавека. Я асабіста неаднаразова адчуваў яе на сабе. Часам сутыкаўся з праблемамі, з якімі самастойна, хутчэй за ўсё, не справіўся б. Пан накіроўваў мяне ў пошуках правільнага рашэння, ставіў на шляху людзей, якія дапамагалі, – і ўсё атрымлівалася! Я ўспрымаю Бога не як нейкага далёкага сваяка. Ён мой Айцец і Сябар, таму давяраю Яму ўсё. Веру, што, нягледзячы на розныя жыццёвыя цяжкасці, Пан ніколі мяне не пакіне.*

***Ангеліна, 13 гадоў:*** *Перш чым я прыступіла да Першай св. Камуніі, часта лічыла за лепшае ў нядзелю пагуляць на вуліцы з сябрамі, паглядзець фільм, утаропіцца ў тэлефон, чым паўдзельнічаць у Эўхарысты… Аднак пасля таго, як прыняла Езуса ў сваё сэрца, штосьці змянілася. Цяпер стараюся быць на св. Імшы штодзённа. Люблю атмасферу святыні, там лягчэй маліцца. Думаю, што гэтая перамена, якая адбылася ўва мне, тое, што нарадзілася жаданне быць з Хрыстом, з'яўляецца менавіта праяўленнем любові Бога да мяне. Пан прыцягвае да сябе, бо прагне майго збаўлення.*

***Яраслаў, 5 гадоў:*** *Бог нас любіць, бо даў прыбіць сябе да крыжа. А д'ябал – не. Д'ябал нас не любіць.*

***Барбара, 79 гадоў:*** *Божая любоў цудоўным чынам спадарожнічае мне з самага пачатку. Мама зацяжарыла ў часы вайны, таму вырашыла зрабіць аборт. Была ўжо ва ўрача, калі тата ўбег у кабінет. Схапіў яе за руку і сцягнуў з крэсла. Калі б бацька не паспеў, мяне магло б не быць. Дзякуючы Божай ласцы я з'явілася на свет. Нарадзіла і выхавала сыноў сумленнымі людзьмі, добрымі бацькамі і мужамі. Двойчы пераадолела рак, спазнала некалькі іншых аздараўленняў… Гледзячы на свет, не перастаю захапляцца яго прыгажосцю і Божай мудрасцю. Як цудоўна Ён усё стварыў! Кожны вечар дзякую Пану не толькі за пражыты дзень, але за ўсе дні, якія атрымала ад Яго.*

***С. Антаніна SSND:*** *Божая любоў – гэта штосьці таямнічае, штосьці па-за межамі майго разумення і адначасова вельмі блізкае і знаёмае. Раней здавалася, што калі я люблю Бога, то і Ён мяне любіць. Цяпер разумею, што Пан любіў і любіць мяне заўсёды, абсалютна, нават калі забываюся пра Яго. Яго любоў не падобная на нашу, чалавечую, і не вымяраецца колькасцю добрых учынкаў. Адчуваю яе кожную хвіліну, калі разумею, што кожны дзень, атрыманы ад Пана, непаўторны. Калі ёсць радасць – гэта Бог, калі слёзы – гэта таксама Бог, але нашмат бліжэй. Усвядоміла адно: Яго планы найлепшыя, хоць не заўсёды мне падабаюцца. Мой Бог ніколі не спяшаецца, але заўсёды прыходзіць своечасова. Сёння, калі штосьці здараецца ў маім жыцці, не пытаюся: "Чаму?", – а кажу сабе толькі: "Значыць, для нечага гэта патрэбна". Давяраючы Езусу ўсё, атрымліваю Яго самога ў Эўхарысты, спазнаю Яго любоў, якою шчодра мяне адорвае.*

***Марыя, 17 гадоў:*** *Бог заўсёды з намі, нягледзячы на не раз дрэнныя ўчынкі і недасканалыя выбары. Ён любіць нас такімі, якія мы ёсць. Ці заўважаем гэтую любоў? Ці цэнім яе? Кожны чалавек адчувае любоў Госпада па-іншаму. Асабіста для мяне яна праяўляецца найперш у маіх любячых бацьках, верных і цярпімых сябрах, добрых настаўніках. Бог заўсёды побач, нават калі адчуваю сябе самотнай. Яго любоў саграваe душу ў самыя складаныя хвіліны жыцця. Аднак і мы павінны выходзіць Яму насустрач. Любоў прагне ўзаемнасці!*

***Аніта, 18 гадоў:*** *Чым для мяне з'яўляецца Божая любоў? Хіба, кіслародам… Сэнсам жыцця, крыніцай радасці, прычынай, каб прачынацца раніцай. Аднак не ўдасца перадаць усё яе значэнне словамі. Божая любоў як паветра: калі яго не стае, пачынаеш задыхацца і можаш нават памерці. Паветра, хоць нябачнае вачам, ёсць паўсюль. Так і з Божай любоўю – сустракаю яе на кожным кроку: у прыгожым усходзе сонца, асвяжальным ветрыку, лагодным цяпле сонечных прамянёў, квітнеючым язміне, водары пасля цёплага дожджыку, усмешцы дзіцяці, падтрымцы сябра. У непахісным спакоі ўнутры, нягледзячы на тое, што мелася "выбухнуць". У працягнутай руцэ камусьці, хто гэтага патрабуе. У шчодрай прысутнасці. Ведаю, што ёсць асобы, праз якіх Бог мяне любіць. А калі пачынаю дзяліцца гэтай любоўю, атрымліваю яе ў сто разоў больш. Бог ёсць Любоў, і, хочам мы гэтага ці не, без яе ўсё губляе сэнс.*

***Дк. Яўген:*** *Божая любоў – гэта самая неспасціжная Таямніца, і разам з тым няма нічога больш відавочнага за яе, бо праяўляецца няспынна. Аднак заўважыць Божую любоў можа толькі той, хто мае чыстае сэрца, той, хто нястомна шукае Праўду. Божая любоў – гэта Праўда. Праўда, якая нас вызваляе. Праўда, без якой немагчыма ўявіць адносіны паміж тымі, хто любіць адзін аднаго. Праўда, якую чалавек не ў стане стварыць альбо прыдумаць, а толькі адкрыць і прыняць – без каментарыяў, у маўчанні. Божая любоў – гэта Маўчанне. Той, хто любіць, не патрабуе слоў. Яму дастаткова прысутнасці любячай асобы. Божая любоў – гэта Прысутнасць. Асабліва ў тыя хвіліны, калі здаецца, што ўсе цябе пакінулі, што нават блізкія сталі далёкімі. Божая любоў – гэта Блізкасць. Не толькі ў цяжкія моманты, але і тады, калі бязмерна шчаслівы, таму што далёка не кожны здольны зразумець і раздзяліць тваё шчасце. Любоў не канцэнтруецца на пачуццях, хоць і не выключае іх. Любоў не абстрактная, яна выражаецца ў канкрэтных дзеяннях. Бясспрэчным доказам таго з'яўляецца прыход Езуса Хрыста ў гэты свет, каб, ахвяраваўшы сябе, збавіць кожнага чалавека. Божая любоў – гэта Нараджэнне, якое наступае заўжды, калі дазваляем Богу дзейнічаць у нашым жыцці…*

***А. Казімір OMI:*** *Вобраз Бога фарміруецца яшчэ ў дзяцінстве, на падставе адносін да свайго таты… Калі быў малы, цяжкія драбіны зваліліся на мяне і прыціснулі. Тата, які стаяў побач, рэзкім рухам адкінуў іх, каб выратаваць мяне. Дзякуючы яго пільнасці і прадбачлівасці драбіны мяне не прыдушылі. Са мной нічога не сталася, і менавіта тады я ўбачыў, што бацька здольны зрабіць для свайго дзіцяці. Наколькі ж моцна любіць мяне і вечна збаўляе Айцец у Небе! Захапляюся Яго любоўю і ў той жа час не магу да канца ўсвядоміць яе веліч.*

***Алена, 41 год:*** *Бог паказвае нам, што ўсё мае сэнс: не адбываецца проста так, без прычыны. Праз складаныя сітуацыі Ён хоча нас чамусьці навучыць. Дзякуючы ласцы Найвышэйшага, я магу жыць такім жыццём, якога заслугоўваю, хоць часам недаацэньваю тое, што маю. Лічу, што каб адчуць Божую любоў, трэба спярша адкрыцца на яе. Важна таксама давяраць Хрысту. Таму кожны свой дзень я распачынаю словамі "Езу, давяраю Табе!".*

***Тэрэза, 55 гадоў:*** *Чым бліжэй твой апошні дзень, тым больш яскрава разумееш, як мала любіў Бога, бо мала маліўся ў маладосці, бо на першым месцы ставіў хатнія, сямейныя справы, праблемы, на якія траціласа ўся энергія, сілы, час… А на малітву заставалася зусім мала… Аднак Бог усё дарує. У самыя цяжкія хвіліны жыцця Ён не пакінуў мяне адну, выслухаў малітвы, бо менавіта тады яны былі найбольш шчырыя. Таму сёння я штодзённа дзякую Богу за ласкі і цярплівасць, прашу аб прабачэнні і аб тым, каб ніколі не пакінуў мяне, грэшную.*

***Святлана, 31 год:*** *Упэўнена, што Божая любоў спадарожнічае мне на працягу ўсяго жыцця. Пан як любячы Айцец прапануе быць сапраўды шчаслівай. Штодзённа бачу, як Ён абсыпае мяне самымі разнастайнымі дарамі, блаславяе, аберагае, прыходзіць на асабістую сустрэчу падчас малітвы і Эўхарыстыі, а часам нават здзяйсняе цуды… Праз сваё Слова вучыць, натхняе, умацоўвае надзею і перасцерагае. Безумоўна, з любові ўзмацняе мяне ў час цяжкасцей і выпрабаванняў. Парою нялёгка зразумець, а яшчэ складаней з пакорай прыняць такую любоў, аднак гэта абавязкова, каб убачыць плён даверу Нябеснаму Айцу ўсюды. Усё мае сэнс! Аднак найбольш выразна адчуваю Божую любоў – сваім сэрцам і душой – калі падчас споведзі чую прамоўленыя святаром словы аб тым, што Пан прабачае мне грахі… У гэтыя хвіліны з'яднання з Хрыстом Бог проста бярэ мяне ў абдымкі сваёй міласэрнасці.*

Вікторыя Сідар




◆ *Папа Францішак і Вялікі імам аль-Азхар прапанавалі ААН абвясціць 4 лютага Сусветным днём чалавечага братэрства. Іх сумесная просьба перададзена генеральнаму сакратару Арганізацыі. Спецыяльна для гэтага ў Нью-Ёрк (ЗША) адправіліся члены Камітэта па ажыццяўленні "Дэкларацыі аб братэрстве паміж людзьмі, міры ў свеце і агульным суіснаванні". У заяве таксама гучыць запрашэнне ААН далучыцца разам са Святым Пасадам і Універсітэтам аль-Азхар да арганізацыі сусветнага саміту на тэму ўсеагульнага братэрства.*

◆ *Кард. П'етра Паралін узначаліў адкрыццё Юбілейнага года, прымеркаванага да 100-годдзя абвяшчэння Маці Божай Ларэтанскай апякункай авіятараў і ўсіх, хто падарожнічае ў паветры. Бліжэйшы супрацоўнік Папы адчыніў Святыя Дзверы ў марыйным санктуарыі ў Ларэта (Італія). Адметная падзея адбылася 8 снежня. Ларэтанскі Юбілей будзе трываць да 10 снежня 2020 года.*

◆ *Амерыканскія католікі працягваюць падтрымліваць Касцёл у розных частках свету. Сёлета сабрана 1,6 мільёна даляраў для дапамогі вернікам у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе. 832 тысячы даляраў будуць прызначаны для Касцёла ў Афрыцы. На апошнім пасяджэнні адпаведнага падкамітэта Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў ЗША зацверджаны праекты, якія патрабуюць фінансавай падтрымкі. Яны датычаць, між іншым, навучання семінарыстаў, ініцыятыў пастырскай апекі для сем'яў, аднаўлення святынь і да т. п.*

◆ *Левая партыя "Падэмас" выступае за "адлучэнне" горада Хаэн "ад рэлігійных падзей" і прапануе забараніць здзяйсненне хрысціянскіх абрадаў у публічных месцах. У гэтай паўднёвай правінцыі Іспаніі доля практыкуючых католікаў самая высокая ў краіне (больш за 50%). Найбуйнейшыя ўрачыстасці з нагоды важных касцёльных свят адбываюцца ў чэрвені, кастрычніку і лістападзе. Прапанову ўжо раскрытыкавала Народная партыя. Члены вялікай апазіцыйнай сілы горада адзначылі, што прадстаўнікі "Падэмас" рэгулярна ўдзельнічаюць ва ўрачыстасцях, у тым ліку калядных шэсцях, аднак забываюцца, што "яны таксама з'яўляюцца хрысціянскімі".*

◆ *У Польшчы створаны арганізацыйны камітэт беатыфікацыі кард. Стэфана Вышыньскага, што адбудзецца 7 чэрвеня 2020 года на плошчы Пілсуцкага ў Варшаве. У склад камісій і секцый увайшлі ксяндзы і свецкія вернікі – разам 86 чалавек. Супрацоўнічаць з імі будуць таксама прысутныя падчас урачыстасці прадстаўнікі дзяржаўных улад і кіраўніцтва горада, армія і паліцыя. "Усе павінны ўключыцца ў гэтую беатыфікацыю, якая акрамя вузка рэлігійнага і касцёльнага характару мае таксама нацыянальна-дзяржаўнае вымярэнне", – падкрэсліў Мітрапаліт Варшаўскі кард. Казімір Ныч.*

*vaticannews.va; ekai.pl; niedziela.pl*




# Пакіньце пустой талерку, а не сэрца

***Вігілійны вечар. Запалены свечкі, гучаць калядкі. Пахне рыбай і сенам. Уся сям'я сабралася разам, аб'ядноўваючы некалькі пакаленняў. Магчыма, наступіў адзін з нямногіх момантаў у годзе, калі за супольным сталом сабраліся блізкія і далёкія сваякі. Пасля малітвы ўсе дзеляцца апламкай і абменьваюцца віншаваннямі. Затым прыступаюць да ўрачыстай вячэры. Талеркі напаўняюцца бульбай з селядзю, капустай і грыбамі... Акрамя адной. Напрыканцы стала стаіць пустая талерка. Згодна з традыцыяй – у чаканні неспадзяванага госця: заспакойвае сумленне гаспадароў дома. І раптам, калі ўсе запрошаныя даўно ў зборы, раздаецца стук у дзверы...***

Насамрэч традыцыя пакідаць пустое месца пры вігілійным стале мае некалькі значэнняў. Некаторыя робяць гэта ў памяць пра блізкага памерлага, іншыя – для чалавека, з якім пасварыліся, у надзеі на прымірэнне. Большасць жа сапраўды прытрымліваецца звычаю захаваць месца пры сямейнай урачыстасці для нечаканага візіцёра.

У любым з гэтых выпадкаў важна, каб сімвал не засланіў сапраўднага дзеяння. Пакідаючы талерку для роднага, што адышоў у вечнасць, варта не забыцца памаліцца за супакой яго душы. Клапоцячыся пра месца для сябра, з якім пасрачаліся, трэба быць гатовымі не толькі выслухаць словы перапрашэння, але і самім папрасіць прабачэння. І галоўнае, на што хочацца звярнуць увагу: паставіўшы на стол дадатковыя прыборы для вандроўніка, неабходна прыняць свядомае рашэнне ўпусціць яго ў дом, калі гэта спатрэбіцца.

Мяркую, што традыцыя пакідаць пустое месца пры стале, якая налічвае ўжо шмат стагоддзяў, прэтэндуе на тое, каб набыць актуальнасць у наш час. Сёння часта можна назіраць, што людзі не адчыняюць дзверы ў выпадку, калі раптам хтосьці пастукаецца, але яны нікога не чакаюць. Не адказваюць на тэлефонны званок, калі бачаць незнаёмы нумар. Вярнуўшыся дадому, спяшаюцца рэзкім рухам зачыніцца на засоўку. Зразумела, у жыцці павінна мець месца разумнае імкненне да захавання ўласнай бяспекі. Аднак ці за гэтымі жэстамі хаваецца толькі жаданне засцерагчы сябе? Можа, насамрэч мы баімся нечаканай просьбы, на якую прыйдзецца адказаць? Або не хочам спаткаць суседа, які жыве ў адзіноце і з якім давядзецца весці няёмкую гутарку? Інакш, проста не хочам заўважаць ніякіх турбот, акрамя сваіх?

Цудоўная традыцыя дадатковай, пустой талеркі нагадвае, што трэба мець адкрытыя сэрцы. І мы штогод маем шанс нанова гэтаму вучыцца. Сёлетні вігілійны вечар можа стаць чарговай нагодай, каб нікога не адштурхнуць, але прыняць. І гаворка не ідзе пра крайнасці. Няма патрэбы запрашаць да сябе дзесятак выпадковых людзей з вуліцы. Справа, хутчэй, у звычайнай чалавечай спагадзе адносна таго, хто мае патрэбу ў сардэчнасці. Усе мы жывём сярод людзей, у канкрэтным атачэнні, і, напэўна, побач ёсць хтосьці, пра каго ніхто не памятае. Можа, маецце калегу-дзівака ў працоўным калектыве, або недалёка знаходзіцца дзіцячы дом ці дом састарэлых. Няважна, кім з'яўляецца гэтая асоба і чым яна займаецца. Важна даць ёй адчуць, што яна не лішняя ў гэтым свеце.

Сёння людзі пакутуюць па многіх прычынах, аднак пачуццё адзіноты, здаецца, – біч сучаснасці. Мы так мала даём сябе іншым... Але ж нішто не наладжвае сапраўдную сувязь так, як хвіліны, праведзеныя разам. Часта ўсё ўпіраецца ў час. Нам пастаянна яго не хапае. Таму давайце ўзгадаем, што не можам даць чалавеку нічога больш каштоўнага, чым свой час... І пустая талерка падчас святочнай вячэры – гэта, у першую чаргу, не пра пачастунак, але пра ўвагу.

***...Дык што адбудзецца, калі хтосьці пастукае ў нашы дзверы ў вігілійны вечар? Атмасфера ўтульнага застолля будзе сапсавана або, наадварот, стане яшчэ больш святочнай? Ці знойдзем мы ў сваіх сэрцах крыху разумення для бліжняга, незалежна ад таго, у якой сітуацыі ён апынуўся? Бо менавіта гэтага і хоча ад нас нованароджаны Езус. Не знайшоўшы іншага прытулку, Ён ляжыць у стаенцы і прагне, каб месца для другога чалавека мы мелі не толькі ў вігілійны вечар. Заклікае кожнага з нас заўсёды "мець дадатковую талерку пры сабе". У такім выпадку традыцыя пустога месца напаўняецца хрысціянскім сэнсам, і яно застаецца пустым толькі з назвы.***

*Ангеліна Марцішэўская*

---




# Пакаленне смартфонаў:
## ці існуе спосаб, каб абараніць дзяцей ад небяспекі інтэрнэту?



***Кс. Павел Салабуда,*** *псіхолаг*

Сёння немагчыма пазбегнуць кантакту з гаджэтамі. З апошніх даследаванняў вынікае, што самастойна карыстацца смартфонам здольны 45% дзяцей ва ўзросце 2–4 гадоў і ажно 92% ва ўзросце 7–10 гадоў. Некаторыя бацькі лічаць, што гаджэты могуць служыць як "выхаваўчая" прылада. Калі малое капрызіць, яму ў рукі даюць тэлефон, каб супакоілася, калі не хоча есці, уключаюць відэаролік ці гульню як стымул. Часта так робяць, калі проста хочуць адпачыць – і дзіця адчэпіцца. На жаль, не ўсе разумеюць, што гэта пачатак сур'ёзнай праблемы.

Віртуальны свет аддаляе дзіця ад рэчаіснасці, якая становіцца для яго няважнай. Могуць узнікнуць цяжкасці з маўленнем, наладжваннем адносін з равеснікамі, сацыяльнай адаптацыяй... Гэта вельмі важная тэма, асабліва для бацькоў. Трэба адразу звярнуць увагу на тое, што пад уладу гаджэтаў дзіця трапляе ў тую ж хвіліну, калі бярэ ў рукі планшэт ці смартфон.

Паважаныя бацькі, каб не дапусціць залежнасці свайго дзіцяці ад інтэрнэту, Вам неабходна ўсвядоміць асноўныя правілы:

***1. Размаўляйце з дзіцём, у тым ліку аб тым, што робіць у інтэрнэце.*** *Вельмі важна пераканаць яго, каб расказвала пра кожнае непакоячае здарэнне ці асобу, сустрэтую ў сеціве.*

***2. Арганізуйце дзіцяці час.*** *Калі план дня добра складзены і напоўнены разнастайнымі заняткамі, у яго застаецца менш часу на інтэрнэт. Важна, каб з гэтых заняткаў дзіця атрымлівала шмат задавальнення і радасці (напрыклад, калі любіць футбол, варта ўзяць яго на матч ці разам паганяць мяч у двары).*

***3. Паклапаціцеся аб бяспецы інтэрнэту.*** *Варта ўстанавіць дзённы ліміт часу карыстання гаджэтамі, бацькоўскія фільтры і кантроль доступу (напрыклад, мультфільм для двухгодка не можа трываць даўжэй за 10 хвілін, для трохгодка – даўжэй за 15-20 хвілін, а старэйшыя дзеці не павінны праводзіць перад тэлевізарам ці камп'ютарам больш, чым гадзіну ў дзень).*

***4. Будзьце прыкладам.*** *Не трэба спадзявацца, што дзеці зоймуцца іншымі справамі, калі Вы самі пастаянна анлайн. Тэлефон – гэта першае, што мы трымаем у руках пасля абуджэння, і апошняе – перад сном?*

***5. Як мага пазней забяспечце дзіця смартфонам.*** *Тое, што ўсе сябры ўжо маюць іх, не з'яўляецца годным аргументам.*

Нельга адмаўляць, што гаджэты часта вельмі карысныя і могуць аблегчыць жыццё. Аднак важна памятаць: бескантрольны, неабмежаваны доступ да інтэрнэту вельмі дрэнна ўплывае на псіхалагічнае здароўе і эмацыянальнае развіццё маладога чалавека.

Няхай духоўнай абаронай ад небяспекі, якую тоіць у сабе інтэрнэт, паслужыць наступная малітва:

**Усемагутны і вечны Божа, які стварыў нас па сваім падабенстве і наказаў шукаць найперш тое, што добрае, сапраўднае і прыгожае, асабліва ў Боскай асобе Твайго Адзінароднага Сына, нашага Пана Езуса Хрыста, дапамажы нам, молім Цябе, праз заступніцтва св. Ісідара, біскупа і доктара, каб падчас сваіх вандровак у інтэрнэце скіроўвалі свае рукі і вочы на тое, што падабаецца Табе, і з любоўю ды цярплівасцю ўспрымалі ўсіх, каго сустрэнем, праз Хрыста, Пана нашага. Амэн.**

**Св. Ісідар, маліся за нас!**

---







### Сімволіка Пастырскага года 2020

**Распрацавана графічная выява, якая стане сімвалам наступнага Пастырскага года ў Касцёле ў Беларусі.**

*На выяве, створанай кс. Артурам Ляшнеўскім SDB, упаўнаважаным Канферэнцыяй Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі за выраб і распаўсюджванне сімволікі Пастырскага года, бачым Хрыста, які стукаецца ў дзверы. Гэта дзверы чалавечага сэрца, адчыніць якія можа знутры толькі сам чалавек. Тут жа бачым постаць св. Яна Паўла II, побач з якой змешчаны тэма і дэвіз наступнага года.*

*Па рашэнні каталіцкага епіскапата Беларусі Пастырскі год 2020 будзе прысвечаны св. Яну Паўлу II. Гэта звязана з тым, што ў наступным годзе прыпадае 100-годдзе з дня нараджэння вялікага Папы, які прыйшоў у свет 18 мая 1920 года.*

**CREDO**

### "Каталіцкі" дызайн

**Некалькі ілюстратараў і дызайнераў аб'ядналіся, каб стварыць CUBE – Catholic Ukrainian Art Brand (Каталіцкі ўкраінскі мастацкі брэнд).**

*Аўтары задумы плануюць паказваць сваімі работамі, што дызайн, сродкі масавай інфармацыі і мастацтва могуць спалучацца з верай у Бога.*

*Першым праектам CUBE стаў выпуск калядных паштовак. Эксклюзіўныя віншавальныя карткі можна замовіць праз інтэрнэт.*




### "Два Папы"

**Фільм пад такой назвай быў намінаваны на прэмію "Залаты глобус" у катэгорыі "лепшы драматычны мастацкі фільм". Пераможцы і намінанты звычайна маюць шанс здабыць Оскар.**

*Намінацыю абвясціла "Hollywood Foreign Press Association" ("Галівудскае таварыства замежнай прэсы"). Бразільскі рэжысёр Фернанду Мейрэліш паказвае ў фільме дыялог паміж папам Францішкам і папам Бенедыктам XVI на тэму стану і будучыні чалавецтва. Гэтыя 2 надзвычай розныя постаці павінны будуць знайсці агульную мову, каб забяспечыць выжыванне Касцёла і не страціць давер мільёнаў вызнаўцаў.*

*У выдуманай гісторыі ролю папы Бенедыкта XVI выконвае Энтані Хопкінс, а ролю кард. Хорхе Марыі Берголіа, пазней папы Францішка, – Джонатан Прайс.*

## Каляндар падзей

**22 снежня**
*IV Нядзеля Адвэнту.*

**24 снежня**
*Вігілія Божага Нараджэння.*

**25 снежня**
*Урачыстасць Божага Нараджэння.*

**26 снежня**
*Свята св. Стэфана, дыякана і мучаніка. Бласлаўленне аўса.*

**27 снежня**
*Успамін св. апостала Яна, евангеліста. У святынях бласлаўляецца віно.*

**28 снежня**
*Свята свсв. немаўлят, мучанікаў.*

**29 снежня**
*Свята Святой Сям'і. Молімся аб хрысціянскім жыцці і святасці ў сем'ях.*

**1 студзеня**
*Урачыстасць Святой Багародзіцы Марыі. Сусветны дзень малітвы аб супакоі ў свеце.*

**2 студзеня**
*Успамін св. Васіля Вялікага і Рыгора Назіянзіна, біскупаў і доктараў Касцёла.*

**6 студзеня**
*Урачыстасць Аб'яўлення Пана (Трох Каралёў). У святынях асвячаецца крэйда, ладан і вада.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

**Снежань**

*Аб дары здаровай набожнасці і вернасці хрысціянскім традыцыям у сем'ях.*

*Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

**Студзень**

*Аб святасці сем'яў. У інтэнцыі сужэнцаў, бацькоў і дзяцей, каб у сваіх сем'ях будавалі сувязі хрысціянскай любові.*

*Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

**"Голас Евангелля"**

*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

**Навіны з Ватыкана па-беларуску**

*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*

**Інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by**

*Асвятленне падзей з жыцця Касцёла на Гродзеншчыне. Даступны фота- і відэаматэрыялы.*

## НАВІНЫ



### ПАДРЫХТОЎКА ДА СВЯТ БОЖАГА НАРАДЖЭННЯ

Напярэдадні адной з галоўных касцёльных урачыстасцей у многіх парафіях Гродзенскай дыяцэзіі вернікі добраўпарадкоўвалі свае сэрцы, беручы ўдзел у рэкалекцыях і Эўхарыстыі, слухаючы навучанні, прыступаючы да сакраманту пакаяння і паяднання.

Па традыцыі ў святынях прайшлі Раратнія св. Імшы, у якіх удзельнічалі асаблівым чынам дзеці і моладзь. У парафіі Перамянення Пана ў Вялікай Бераставіцы пасля ранішніх цэлебрацый Эўхарыстыі ў гонар Найсвяцейшай Панны Марыі дзеці збіраліся ў катэхетычным класе на супольны сняданак.

У касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гродне (пабрыгіцкі) моладзь сабралася на адвэнтавае чуванне. Сустрэча пад дэвізам "Адчыніце дзверы Хрысту" распачалася св. Імшой, якую ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі.

### БІСКУПСКІЯ ВІЗІТЫ

Дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі разам з парафіянамі маліўся ў Рандзілаўшчыне (дэканат Дзятлава) у 30-ую гадавіну вяртання святыні вернікам.

З такой жа нагоды біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч прыняў удзел ва ўрачыстасці ў Зэльве (дэканат Слонім).

### ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ

Дыяканы, якія нядаўна прынялі пасвячэнне, накіраваліся ў Вострую Браму ў Вільнюсе (Літва). У капліцы цудатворнага абраза Маці Божай Міласэрнасці яны падзякавалі за дар паклікання і прынялі ўдзел у св. Імшы.

Напярэдадні свят Божага Нараджэння навучэнцы Гродзенскай ВДС на чале з духоўным айцом кс. Янам Сарэлам наведалі састарэлых і хворых у Доме міласэрнасці ў Каменцы, а пасля накіраваліся ў інтэрнат для сірот і дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі ў Галавічполлі. Каб падзяліцца радасцю надыходзячага свята, група семінарыстаў разам з прэфектам кс. Янам Раманоўскім таксама прыбыла з візітам у сацыяльна-педагагічны цэнтр у Радуні.

### ДАБРАЧЫННАЕ ТАВАРЫСТВА "КАРЫТАС"

"Карытас" Гродзенскай дыяцэзіі ў супрацоўніцтве з Кангрэгацыяй Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта (назарэтанкі) ужо традыцыйна зладзілі ў Гродне святочны абед для бедных і бяздомных. У сустрэчы прыняў удзел біскуп Юзаф Станеўскі, які паламаўся з прысутнымі аплаткай і склаў усім святочныя пажаданні.

### АДНЫМ РАДКОМ

• Біскуп Пінскі Антоній Дзям'янка наведаў у адпустовую ўрачыстасць парафіяльную супольнасць Беззаганнага Зачання Найсвяцейшай Панны Марыі ў Лідзе. • Кс. Віталій Валюк цэлебраваў прыміцыйную св. Імшу ў семінарыі ў Гродне. • Пры гродзенскай парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля скончыўся цыкл катэхез, якія праводзілі члены неакатэхуменальнай супольнасці. • Прадстаўнікі моладзевага душпастырства "OPEN" наведалі гродзенскі карэкцыйны цэнтр для дзяцей з асаблівасцямі псіха-фізічнага развіцця. • Адышла ў вечнасць с. Юзэфа Памаранская, сэрцанка бесхабітовая, якая шмат гадоў служыла ў гродзенскага біскупа. • Дзень малітвы для дзяўчат арганізавалі сёстры кармэліткі ў Гудагаі (дэканат Астравец). • У аматарскім турніры па футболе, які прайшоў у Іўі, перамагла каманда святароў. • У Смаргоні адсвяткавалі дзень нараджэння салезіянскага араторыя. • Бр. Уладзімір Лопух, які паходзіць з парафіі ў Варончы (дэканат Навагрудак) прыняў хабіт у Ордэне св. Паўла, першага пустэльніка (паўліны). • У Альбярціне (дэканат Слонім) ушанавалі памяць ахвяр II Сусветнай вайны ў 77-ую гадавіну іх расстрэлу.

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by**.*

## АНОНСЫ

### РЭКАЛЕКЦЫІ ДЛЯ ДЗЯЎЧАТ АДБУДУЦЦА Ў ЛІДЗЕ

**Духоўныя практыкаванні пройдуць 2–5 студзеня на тэму "Хто я і мой план на жыццё".**

Сустрэчу арганізуюць сёстры з Кангрэгацыі Дачок Марыі Беззаганнай. На рэкалекцыі запрашаюцца тыя, хто хоча спаткацца з Богам, пачуць Яго голас і пачуць сябе. З сабой неабходна мець Біблію і нататнік.

*Усе пытанні і запіс па тэлефоне: (8 029) 986-08-65 – с. Хэлена.*

### РЭКАЛЕКЦЫІ ДЛЯ ЮНАКОЎ ПРОЙДУЦЬ У ГУДАГАІ

**Духоўныя практыкаванні адбудуцца 7–9 лютага ў кляштары айцоў кармэлітаў.**

Да ўдзелу запрашаюцца хлопцы ад 14-ці гадоў, якія жадаюць паразважаць над жыццёвым пакліканнем. Тэма рэкалекцый – "Не бойся сказаць Богу «так» і адчыніць дзверы свайго сэрца".

*Больш дакладную інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне: (8 044) 589-68-98 – а. Аляксандр Стока OCD, адказны за пакліканні.*

### ІНФАРМАЦЫЯ ДЛЯ ВЕРНІКАЎ ПАРАФІІ БЛ. МАР'ЯНЫ БЯРНАЦКАЙ У ГРОДНЕ

**У склад парафіі, якая атрымала дзяржаўную рэгістрацыю 1 лістапада бягучага года, дэкрэтам біскупа Гродзенскага ўвайшлі вуліцы мікраараёнаў Ласосна 1, 2, 3, 4 і Барана-вічы 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, а таксама колішняй в. Тарусічы ўздоўж вуліц Цэнтральная і Спутнік-Прыдарожная.**

Св. Імша для вернікаў новай парафіі будзе цэлебравацца кожную нядзелю ў 13.00. Да моманту пабудовы часовай капліцы набажэнствы будуць адпраўляцца ў касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Адамавічах.

Да ўдзелу ў Эўхарыстыі і супольным утварэнні новай парафіі ў горадзе над Нёманам – найперш будавання жывога Касцёла – усіх парафіян і людзей добрай волі сардэчна запрашае яе пробашч кс. Юрый Марціновіч.

### УДЗЕЛЬНІКІ ПІЛІГРЫМКІ ГРОДНА – РОСЬ І ВАЛАНЦЁРЫ ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНАГА ДНЯ ДЗІЦЯЦІ ЗАПРАШАЮЦЦА НА АПЛАТКАВУЮ СУСТРЭЧУ

**Спатканне адбудзецца 26 снежня ў гродзенскай парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (мікраараён Паўднёвы).**

19.00 – св. Імша ў інтэнцыі ўдзельнікаў пілігрымкі, валанцёраў і ахвярадаўцаў;
20.00 – дзяленне аплаткай, салодкі пачастунак у дольным касцёле.

У праграме сустрэчы запланавана віншавальная частка з нагоды свят Божага Нараджэння і спеў калядак.

*Падрабязная інфармацыя па тэлефоне: (8 029) 784-05-72 – кс. Юрый Марціновіч.*

### ДА ЎВАГІ ЧЫТАЧОЎ!

**У сувязі са святамі Нараджэння Пана і Новым годам чарговы нумар газеты "Слова Жыцця" выйдзе 12 студзеня 2020 года.**

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**
ў сувязі са смерцю с. Юзэфы перасылаем словы глыбокага спачування і сардэчнага жалю, спалучаныя з малітвай.

*Вернікі з парафіі Міжэрычы*

### У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**23 снежня 2016 г.** – кс. Тадэвуш Вышынскі СМ, *праф. Гродзенскай ВДС;*
**30 снежня 1997 г.** – кс. д-р Рышард Слівінскі, *праф. Гродзенскай ВДС;*
**4 студзеня 1967 г.** – кс. Баляслаў Красадомскі, *проб. Ішчолна;*
**10 студзеня 2004 г.** – а. Караль Шчэпанэк OFMCap, *проб. Ліпнішкі.*

# Ад шчырага сэрца

**Іх Эксцэленцыям Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Юзафу Станеўскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаю здароўя, душэўнага супакою, Божага благаслаўлення і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай кожны пражыты дзень прыносіць сілу і радасць для выканання душпастырскай працы.

*С. Ірэна Златкоўская, Генеральная настаяцельніца Супольнасці Сясцёр Дапаможніц Чыстцовым Душам*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаю, каб нованароджанае Дзіцятка Езус адорвала Вас сваімі ласкамі, напаўняла спакоем, радасцю і любоўю, благаслаўляла на кожны дзень паслугі, а Найсвяцейшая Панна Марыя заўсёды апекавалася. Няхай святло Святога Духа, якое ззяе ў сэрцы, ніколі не пагасне, даючы сілу і натхненне, а Бэтлеемская зорка ўказвае прыгожы шлях да Пана.

*Аліцыя Воранава са Смаргоні*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем букет сардэчных пажаданняў: моцнага здароўя, шмат сіл і энергіі, радасных і спакойных дзён у Божай ласцы. Няхай Усемагутны благаслаўляе Вас, Маці Божая прытуляе да свайго сэрца, а Святы Дух асвячае кожны дзень душпастырскай паслугі.

*Вернікі з касцёла Узвышэння Святога Крыжа ў в. Галынка*

**Іх Эксцэленцыям Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Юзафу Станеўскаму, паважаным Ксяндзу Рэдактару Юрыю Марціновічу, Ксяндзам Яраславу Грынашкевічу, Валерыю Быкоўскаму, Паўлу Салабуду, Алегу Канановічу і Яну Раманоўскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, бясконцай радасці з плёну сваёй працы, добразычлівых людзей на жыццёвым шляху, шчодрых Божых ласкаў і сталай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай кожны Ваш дзень будзе асвечаны бязмежнай любоўю Бога.

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Салабуду**

з нагоды Дня нараджэння шчыра жадаем апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка, шчодрых Божых дароў і моцнага здароўя, радасці і сілы ў паслузе на карысць Богу і людзям.

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Лісоўскаму**

з нагоды Імянін сардэчна жадаем моцнага здароўя, сіл, стойкасці, радасці, натхнення, добразычлівых людзей побач, а таксама шматлікіх Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Маці і дароў Святога Духа.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Вярэйкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Зянону Рамейку**

з нагоды Імянін жадаем здароўя, шчасця, стойкасці ў душпастырскай працы, апекі Маці Божай, людской добразычлівасці і багабойных парафіян. Няхай Ваш шлях будзе шчаслівы і благаслаўлёны, а выконваемая паслуга прыносіць радасць, задавальненне і шчодры плён.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Астрыны*

**Паважаным Ксяндзам Артуру Малафею і Міхалу Ластоўскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем мудрасці, радасці, шчасця і запалу ў паслузе. Няхай Бог, які ўказаў Вам дарогу да святарства, вядзе праз жыццё і дапамагае пераадольваць усе цяжкасці. Няхай Ваша шчырая малітва і добрае слова заўсёды дораць людзям святло і натхненне. Да віншаванняў далучаем нашу малітву, а Вашу паслугу даручаем Маці Божай.

*Вернікі з парафіі Гродна-Аўгустовак*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння жадаем, каб нованароджаны Збаўца, які нясе супакой усяму свету, адарыў Вас сваімі дарамі: здароўем, радасцю і душэўным супакоем. Благаславі Вас Бог!

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам Гродзенскай дыяцэзіі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віталію Чургану**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, спакойных і ясных дзён у святарскай паслузе, душэўнага супакою, добрых людзей побач, апекі Маці Божай у кожную хвіліну і мноства ласкаў ад нованароджанага Хрыста. Дзякуем за працу ў нашай парафіі.

*Ружанцовае кола НПМ Тракельскай і парафіяне з Юрацішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Дзянісу Шмыгіну**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года шчыра жадаем радаснага чакання і гатоўнасці прыняць Божага Сына, а таксама моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, шчасця, добразычлівых людзей навокал, Божага благаслаўлення і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Мы ўдзячны Вам за адданую паслугу ў нашай парафіі.

*Вернікі з касцёла Звеставання НПМ у Міжэрычах*

**Паважаным Ксяндзу Каноніку Яну Рэйшалю, Сястры Ганне Насевіч, а таксама ўсім святарам, якія служылі ў нашай парафіі,**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем моцнага здароўя, шчасця, радасці, аптымізму. Няхай Панна Марыя ахінае Вас сваёй пяшчотай, а Божае Дзіцятка асвячае жыццёвы шлях. Шчыра дзякуем за гады служэння ў нашай парафіі.

*Вернікі з капліцкі Ліпічна*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Этэлю, Аляксандру Фядотаву, Віктару Сініцкаму, Аляксею Вянцкевічу, а таксама Сёстрам Аляксандры і Дароце**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем шчасця, здароўя на доўгія гады, стойкасці і ясных дзён у паслузе. Няхай Бэтлеемская зорка асвячае жыццёвы шлях, Дзіцятка Езус адорвае спакоем, любоўю і радасцю, Маці Божая нястомна апекуецца, а Святы Дух шчодра спасылае свае дары. Дзякуем за абвяшчэнне Божага слова, добрыя сэрцы і малітву.

*"Легіён Марыі" і малітоўная група Добрага Пастыра з парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Артуру Малафею**

з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя і радасці на ўсё жыццё. Няхай Бог благаслаўляе кожны дзень, а агонь любові і дабрыні, што палае ў Вашым сэрцы, ніколі не пагасне. Жадаем душэўнага супакою, добрых і зычлівых людзей навокал, а таксама дасягнення ўсіх мэт. Заўсёды памятаем пра Вас у малітвах.

*Вернікі з парафіі Гродна-Аўгустовак*

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Спірыдону**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаем Вам моцнага здароўя, сілы і стойкасці на святарскім шляху, штодзённай радасці, душэўнага супакою, моцнай веры, непахіснай надзеі і палымянай любові. Няхай Маці Божая прытуляе Вас да сябе і дадае сіл у душпастырскай паслузе.

*Вернікі з капліцы Вердамічы*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Канапельку**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года сардэчна жадаем шчодрых Божых ласкаў, доўгіх гадоў жыцця, благаслаўлення і шмат радасных хвілін. Няхай Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, Святы Дух асвячае кожны дзень святарскай паслугі, Маці Божая прытуляе да свайго сэрца, а святы Заступнік нястомна апекуецца.

*Былыя парафіяне з капліцы Вердамічы*

**Паважанаму Айцу Томашу Ксёнжкевічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і набліжаючагася Дня нараджэння жадаем добрага здароўя, радасці, сіл, моцы Святога Духа, дабрыні і чуласці ад людзей побач, нязгаснага запалу ў душпастырскай працы. Няхай Бэтлеемская зорка вядзе Вас найпрыгажэйшым шляхам да Пана.

*Парафіяне з Азёраў*

**Дарагому Ксяндзу Паўлу Эйсманту**

з нагоды Дня нараджэння, свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, шчасця, радасці, шчодрых ласкаў ад Дзіцятка Езус, апекі святога Заступніка, шмат сіл і стойкасці ў святарскай паслузе. Няхай Маці Божая апекуецца Табой у кожную хвіліну жыцця.

*Любячыя бацькі і брат з сям'ёй*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Канапельку**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаем мноства Божых ласкаў, спакою, радасці і дастатку. Няхай у новым годзе здзяйсняюцца мары, утоеныя ў глыбіні сэрца, а міласэрны Бог узнагародзіць Вас моцным здароўем, сілай і стойкасцю ў шчырай і адданай паслузе.

*Вернікі з парафіі св. Міхала Арханёла ў Поразаве*

**Паважаны Ксёндз Пробашч Ян Кучынскі!**

З нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем, каб Дзіцятка Езус благаслаўляла і адорвала сваімі ласкамі кожны дзень Вашай святарскай паслугі. Дзякуем за прыклад глыбокай малітвы, мудрыя, павучальныя казанні, адданую працу і клопат аб святыні і парафіянах. Няхай міласцівы Пан заўсёды шчодра ўзнагароджвае, Святы Дух адорвае мудрасцю, Маці Божая прытуляе да свайго сэрца і дадае сіл, а Бэтлеемская зорка нястомна асвячае шлях.

*Малітоўная група МБ Кангрэгацкай*

**Паважаным Айцам Юрыю Саковічу, Ануфрыю Альховіку і Брату Сяргею Калюту**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаем моцнага духоўнага і цялеснага здароўя, шчасця, мудрасці, каб чуйна і годна весці нашы душы да Бога. Няхай Дзіцятка Езус благаслаўляе Вас на плённае і доўгае служэнне, а Маці Божая атуляе плашчом мацярынскай дабрыні.

*Вернікі з Карэлічаў і Варончы*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Жэгарыну**

з нагоды Дня нараджэння, свят Божага Нараджэння і Новага года ад шчырага сэрца жадаем благаслаўлення Божага Дзіцяці і ўсіх Яго дароў. Дзякуем за ахвярную працу, добразычлівасць, трапныя словы. Няхай з Божай і людской дапамогай здзяйсняюцца ўсе Вашы планы і намеры.

*Касцёльны камітэт і парафіяне з касцёла св. Міхала Арханёла ў Навагрудку*

**Паважанаму Ксяндзу Віталію Цыбульскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай заўсёды хапае сіл, запалу і цярплівасці ў душпастырскай паслузе, кожная хвіліна жыцця будзе радаснай і благаслаўлёнай, нованароджанае Дзіцятка адорвае ўсімі ласкамі, а міласэрная Маці мае ў сваёй апецы.

*Касцёльны камітэт і парафіяне з касцёла св. Міхала Арханёла ў Навагрудку*

**Паважанаму Ксяндзу Яцэку Маркелю**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаем добрага здароўя, радасных дзён, шмат сіл для пераадольвання цяжкасцей, моцнай веры, нязгаснай надзеі і сапраўднай Божай любові.

*Былыя парафіяне з Зэльвы: сем'і Трубей і Раманчук з Гродна*

**Паважаным Ксяндзу Аляксандру Баклажцу, а таксама Сёстрам Марыне Сакач, Аўгустыне Белагрывай, Дароце Белагрывай, Аляксандры Сташкевіч і Кацярыне Саўко**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем здароўя, шчасця, дасягнення мэт, радасці і надзеі на кожны дзень жыцця.

*Сям'я Саўко з Вейшычаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем шчасця, радасці, моцнага здароўя на доўгія гады, шчодрых Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Маці і благаслаўлення ад Дзіцятка Езус. Дзякуем Вам за прыгожыя павучальныя казанні і за тое, што Вы з намі, за клопат пра нас і святыню.

*Парафіянкі з гродзенскай катэдры*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Зянону Рамейку і Юрыю Грыцко**

з нагоды свят Божага Нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бэтлеемская зорка, якая ўзыходзіць у змроку, прынясе Вам шчасце і мноства поспехаў у новым годзе. Няхай нованароджанае Божае Дзіця благаслаўляе і адорвае сваімі ласкамі і моцным здароўем на доўгія гады. Ад усяго сэрца дзякуем за ахвярную паслугу ў нашым касцёле, за прысутнасць сярод нас, клопат пра святыню і парафіян.

*Парафіяне і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Астрыны*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Адамовічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаем благаслаўлення Дзіцятка Езус, спакойнай душпастырскай працы, добрых людзей на жыццёвай дарозе і як мага больш сонечных дзён.

*Вернікі з парафіі Божай Міласэрнасці ў Доцішках*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Этэлю, Віктару Сініцкаму, Аляксандру Фядотаву, Аляксею Вянцкевічу, Сёстрам Дароце і Аляксандры, а таксама Арганістцы Ганне**

з нагоды свят Божага Нараджэння жадаем шчасця, здароўя, доўгіх гадоў жыцця, а таксама зычлівых людзей побач. Няхай Дзіцятка Езус адорвае Вас спакоем, радасцю і любоўю, Найсвяцейшая Панна Марыя атуляе мацярынскай апекай, а Святы Дух апраменьвае святлом кожны Ваш дзень.

*Касцёльны камітэт і вернікі з парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне*

**Паважаным Ксяндзам Каноніку Здзіславу Вэдэру, Пробашчу Алегу Жураўскаму, Артуру Ляшнеўскаму, Алегу Каралёву, Аляксандру Мятліцкаму, Казіміру Мараўскаму, Віктару Захарэўскаму, Юзафу Багдзевічу, Уладзіславу Сурвілу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаю здароўя, поспехаў, зычлівых людзей побач, плённай святарскай паслугі і моцы Святога Духа. Няхай Бэтлеемская зорка вядзе найпрыгажэйшай дарогай да Пана.

*Аліцыя Воранава са Смаргоні*

**Шаноўным Сёстрам Марыі Стасевіч, Аляксандры Арэшка, Мар'яне Алешчык, Філатэі Ціхановіч, Агаце Смольскай, Клары Волчэк, Ірыне Барцэвіч, Вераніцы Блізнюк, Юліі Клевец і Валянціне Кот**

з нагоды свят Божага Нараджэння жадаю шчодрых дароў Святога Духа, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, непахіснай надзеі, моцнага здароўя, мудрасці і душэўнага супакою. Будзьце сапраўднай зброяй у руках Хрыста і пры дапамозе Слова навяртайце людзей да Бога. Няхай кожны дзень прыносіць сілы і радасць для здзяйснення Вашай паслугі.

*Аліцыя Воранава са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем, каб Бог благаслаўляў святарскі шлях, Святы Дух асвячаў яго, а Маці Божая апекавалася Вамі. Няхай кожны дзень будзе шчаслівы, паслуга прыносіць задавальненне і добры плён, спакой і надзея напаўняюць сэрца, а ўсмешка і прыхільнасць да людзей стануць натхняльнай сілай для ўсіх, хто побач.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Капцёўкі*

працяг віншаванняў на с. 8

# Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Ксяндзу Яну Балтрукевічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Імянін жадаем душэўнага супакою, усмешкі на твары, задавальнення ад святарскай паслугі. Няхай Бог адорвае здароўем на доўгія гады жыцця, мудрасцю, сілай і цярплівасцю, а таксама дапамагае ва ўсіх справах. Нам вельмі прыемна бачыць, што дзякуючы Вам наша святыня становіцца яшчэ больш прывабнай і ўтульнай.

*Парафіяне фарнага касцёла ў Навагрудку*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Гедройцю**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні: здароўя, радасці, доўгіх святарскіх гадоў. Няхай Езус Хрыстус і Яго Найсвяцейшая Маці заўсёды Вамі апекуюцца, ахінаючы цеплынёй сваіх сэрцаў, а побач будуць зычлівыя людзі. Дзякуем за малітву, навуку, добрыя словы. Няхай з Вашага твару ніколі не знікае ўсмешка.

*Парафіяне з касцёла Узвышэння Святога Крыжа ў в. Галынка*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Уладзіміру Гуляю, Віталію Сідорку, Дзянісу Бразінскаму, Станіславу Краўчанку, Эрнэсту Мікалайчыку, Дыяканам Томашу Мікалайчыку і Андрэю Струкелю, а таксама дарагім Сёстрам Галіне і Назарыі**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем Божага блаславення, сіл, стойкасці, душэўнага супакою на доўгія гады. Няхай Святы Дух асвятляе Вашы сэрцы і розум, а Найсвяцейшая Панна Марыя нястомна апекуецца.

*Касцёльны камітэт і парафіяне з Ліды-Фары*

**Паважанаму Ксяндзу Уладзіміру Аксенцьеву**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем, каб нованароджаны Езус Хрыстус адорваў сваімі ласкамі і дадаваў сіл у святарскай паслузе. Няхай полымя Божай любові ў Вашым сэрцы ўзмацняецца, а Бэтлеемская зорка ніколі не гасне над жыццёвым шляхам. Жадаем моцнага здароўя, аптымізму, радасці, шчодрых дароў Святога Духа, нястомнай апекі Маці Божай. Дзякуем за абвяшчэнне Божага слова і прыклад шчырай веры.

*Вернікі з вёсак Еўлашы, Багданы, Доўгая парафіі Лядск*

**Паважаным Ксяндзам Прэлату Антонію Філіпчыку, Віталію Пяткевічу, Дзмітрыю Леўчыку, Віталію Валюку, а таксама Сёстрам Мірыям, Антаніне, Ліліяне і Наталлі**

з нагоды свят Божага Нараджэння жадаем шмат радасці і дабрыні, моцнага здароўя, плёну з паслугі, Божага блаславення, шчодрых дароў Святога Духа і нястомнай апекі Панны Марыі. Дзякуем за чуласць, шчырасць, зычлівасць і за тое, што нястомна моліцеся за нас.

*Ружанцовае Кола МБ Нястомнай Дапамогі, Францішканскі ордэн свецкіх з парафіі св. Вацлава ў Ваўкавыску*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Яну Рэйшалю**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем здароўя, шчасця і блаславення ад Дзіцятка Езус. Няхай Святы Дух дапамагае Вам ва ўсіх справах, Маці Божая вядзе найлепшымі сцежкамі праз жыццё, праца прыносіць шчодры плён, а добры Бог ва ўсім блаславе. Няхай кожны дзень новага года будзе радасны і прыемны. Дзякуем за адданую паслугу ў нашай парафіі і за ўсё, што Вы для нас робіце.

*Парафіяне з Жалудка*

**Паважаным Ксяндзам Паўлу Беланосу, Прэлату Ярославу Грынашкевічу, Юрыю Марціновічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог узнагародзіць Вас моцным здароўем, стойкасцю, сілай і нязгасным запалам у шчырай і адданай паслузе Богу і людзям, Найсвяцейшая Маці апекуецца на працягу ўсяго жыцця, атуляе сваім плашчом і адорвае цяплом свайго сэрца, а Святы Дух асвячае дарогу. Дзякуем за Вашы малітвы, зычлівасць, усмешку, працавітасць і добрасардэчнасць.

*Парафіяне з Макараўцаў*

**Паважанаму Ксяндзу Вячаславу Матукевічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем здароўя, радасці, доўгіх гадоў жыцця, аптымізму і поспехаў у штодзённай паслузе. Няхай кожны дзень будзе напоўнены Божым блаславеннем, побач будуць зычлівыя людзі, а Слова, якое засяваеш у сэрцах вернікаў, прыносіць шчодры плён.

*Бацькі*

**Паважаным Айцам Пробашчу Аляксандру Махначу і Вітольду Пяцельчыцу, клерыку Паўлу і ўсім Айцам піярам**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай нованароджанае Дзіцятка Езус адорвае Вас сваімі ласкамі, напаўняе супакоем, радасцю, любоўю і блаславе кожны дзень паслугі, а Найсвяцейшая Панна Марыя заўсёды апекуецца. Няхай святло Святога Духа, якое ззяе ў Вашых сэрцах, ніколі не гасне, дадае сіл і натхнення, а Бэтлеемская зорка паказвае прыгожы шлях да Пана.

*Вернікі з парафіі Ліда-Індустрыяльны*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яўгену Учкуронісу, Сястры Магдаліне Кулай і Закрыстыяніну Сяргею Кікілічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем моцнага здароўя, шчасця, стойкасці ў паслузе, шчодрых Божых ласкаў і апекі Панны Марыі. Няхай Вашыя сэрцы заўсёды будуць адкрыты для людзей, Дзіцятка Езус дае сіл, мудрасці і цярплівасці, Святы Дух умацоўвае веру, а святло Бэтлеемскай зоркі белай стужкай цягнецца праз усё Ваша жыццё.

Дарагі Ксёндз Пробашч! Дзякуем Вам за тое, што знаходзіцеся побач з намі ў радасці, трывозе і журбе, што з'яўляецеся нашай парадай і падтрымкай. Няхай Усемагутны ўзнагародзіць Вас за тое, што дапамагаеце людзям ісці праз жыццё з верай, надзеяй і любоўю да Пана Бога!

*Апостальства "Маргарытка" і вернікі з парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

**Паважаным Ксяндзам Здзіславу Пікулу, Казіміру Мураву, Алегу Жураўскаму, Сястры Караліне**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем, каб Бэтлеемская зорка асвячала Ваш шлях, Божае Дзіцятка адорвала супакоем, любоўю і радасцю, Панна Марыя апекавалася ў кожную хвіліну жыцця, а Святы Дух шчодра спасылаў свае дары. Жадаем шчасця, здароўя, доўгіх гадоў жыцця, спакойных дзён у святарскай паслузе і добразычлівых людзей побач.

*Парафіяне з Дзятлава*

**Паважанай Сястры Луцыі**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем шчодрых Божых ласкаў, дароў Святога Духа, аптымізму, надзеі, здароўя, душэўнага супакою, моцы і нястомнай апекі Маці Божай. Памятаем пра Вас у сваіх малітвах і дзякуем за тое, што Вы з намі і служыце нам усім сваім сэрцам!

*Парафіяне з Ліпнішкаў*

**Любімым Бацькам Марыі-Станіславе і Антонію Пясэцкім**

у 90-ую гадавіну з дня нараджэння жадаем добрага здароўя, спакою ў сэрцы, шчодрых Божых ласкаў.

90 гадоў гадзіннік біў,
усяк у жыцці бывала...
Ты, добры Божа, дадай сіл,
каб жыццё іх далей трывала.
Мінала столькі розных дат
і столькі начэй неспакойных.
Хоць часам вецер у твар
задзьмуваў, трываеце
з моцай Божай.

Дарагія Бацькі, дзякуем Вам за жыццё, якое далі нам, за любоў у сэрцы, за мацярынскія слёзы, што так краналі, за заклапочаны, стомлены бацькаў твар і цяпло роднага дома.

*Дзеці, унукі, праўнукі*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Паўлюкевічу**

з нагоды Дня нараджэння, свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем шчасця, здароўя, энергіі і натхнення Святога Духа ў паслузе ў новай парафіі, а таксама добрых парафіян. Няхай Дзіцятка Езус падтрымлівае ў жыцці, а Панна Марыя атуляе апекай. Памятаем у малітве і спадзяёмся на сустрэчу з Вамі ў нашай святыні.

*Касцёльны камітэт і вернікі з Граўжышкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Раманоўскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем узрастаць у цнотах, атрыманых з Божай ласкі, шмат сіл і мудрасці ў цяжкія хвіліны, рэалізацыі ўсіх планаў і задум, моцнага здароўя, душэўнага супакою. Дзякуем за тое, што запальваеце ў нашых сэрцах агонь любові да Бога, за мудрыя парады, казанні, спагадлівасць, жаданне паказваць людзям дарогу да Пана, за катэхізацыю нашых дзяцей і ўнукаў. Мы ўдзячныя за ласку сустрэчы з Вамі.

*Вернікі з Граўжышкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Антонію Казлоўскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаем шчодрых ласкаў ад Божага Дзіцяці на кожны дзень жыцця. Мы ўдзячны Пану, што Вы разам з намі, за клопат пра нас і наш касцёл, за Ваша слова, любоў, дабрыню, вялікае сэрца. Няхай Бог узнагародзіць Вас, а Марыя мае ў сваёй нястомнай апецы.

*Вернікі з в. Малінавая*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Звяжынскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года сардэчна жадаем, каб нованароджаны Збаўца адорваў сваімі ласкамі, Маці Божая заўсёды апекавалася, а Святы Дух спасылаў шчодрыя дары. Дзякуем за добрае сэрца, за тое, што вучыце любіць Бога і бліжняга, аказваеце падтрымку і надалей дорыце свой час, клопат і веды.

*Парафіяне з Варнянаў і Вароны*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Субелю, Сёстрам Ганне і Агнешцы, Кансэкраваным Удовам Зоф'і і Сабіне**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем, каб нованароджаны Збаўца адорваў здароўем і радасцю, Яго Маці апекавалася Вамі і ахоўвала кожны дзень, а Бетлеемская зорка асвятляла жыццё і несла супакой у сэрца. Шчыра дзякуем за адданую працу, цярплівасць, клопат пра святыню і людзей, за добрае сэрца і за тое, што Вы з намі і для нас.

*Парафіяне з касцёла Нараджэння НПМ у Трабах*

**Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем здароўя, шчасця, поспехаў. Няхай міласэрны Бог аберагае, Бэтлеемская зорка асвячае святарскі шлях, напаўняе спакоем сэрца і душу, а Дзіцятка Езус і Яго Найсвяцейшая Маці нястомна блаславяюць.

*Былыя парафіяне з Навіянкі*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Дзмітрыю Несцеру, Віктару Савіцкаму і Юрыю Марціновічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем здароўя, радасных дзён, людской зычлівасці, блаславення Дзіцятка Езус, апекі Маці Божай. Няхай Бэтлеемская зорка асвячае святарскі шлях.

*Ружанцовае кола і вернікі з в. Вінцукі*

**Паважаным Ксяндзу Пробашчу Руслану Мазану і Айцу Андрэю Ядкоўскаму**

жадаем радасных і шчаслівых свят Божага Нараджэння і Новага года! Няхай Бэтлеемская зорка заўсёды асвячае Ваш святарскі шлях, здароўе будзе моцным, радасць – штодзённай, а вера – непахіснай. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя атуляе Вас мацярынскім плашчом любові, а Святы Дух адорвае мудрасцю і поспехам. Няхай у новым годзе рэалізуюцца ўсе добрыя планы і намеры. Дзякуем за няхмурную працу ў нашай святыні, за дабрыню і клопат пра кожнага з нас.

*Парафіяне і Ружанцовае кола са Станевічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валерыю Спірыдону**

з нагоды свят Божага Нараджэння жадаем, каб Езус Хрыстус напаўняў сэрца сапраўдным спакоем і радасцю, умацоўваў і шчодра адорваў сваімі ласкамі ў надыходзячым новым годзе. Няхай кожны дзень будзе напоўнены Божым блаславеннем і апекай Святой Сям'і.

*Вернікі з парафіі Мсцібава*

**Паважаным Ксяндзам Юрыю Канапельку і Андрэю Пышынскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння жадаем добрага здароўя, душэўнага супакою, сапраўднай радасці, задавальнення ад выконваемай паслугі, а таксама поспехаў і блаславення ад Дзіцятка Езус на кожны дзень новага года.

*Вернікі з парафіі Мсцібава*

**Паважаны Ксёндз Пробашч Віталій Чурган!**

З нагоды свят Нараджэння Хрыста ад усёй душы жадаем Божага блаславення, штодзённай дапамогі Маці Божай у Вашай нялёгкай працы і ва ўсіх добрых справах, здароўя, цярплівасці і душэўнага супакою. Няхай агеньчык веры, надзеі і любові саграваe Вас.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Юрацішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Бяганскаму, Дыякану Дзмітрыю Мальцу і ўсім Святарам,**

якія абвяшчалі Божае слова і выконвалі душпастырскую паслугу ў нашай святыні, з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем, каб Езус Хрыстус нястомна нараджаўся ў Вашых сэрцах, адорваў унутраным спакоем, радасцю і мужнасцю. Няхай моц веры дапамажа Вам пазбавіцца ад страху, перамагчы боязь перад невядомасцю заўтра і заўсёды давяраць Богу. Няхай кожны словам і ўчынкам зможа вызнаць: "Веру ў Божага Сына". Блаславёных свят Божага Нараджэння, здароўя і шчодрых ласкаў на кожны дзень новага 2020 года!

*Парафіяне з Тракеляў*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Сарэлу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем здароўя, здзяйснення мар, спакойных дзён. Няхай жыццё будзе сонечным, радасным і шчаслівым. Няхай добры Бог асвеціць сваёй ласкай Ваш зямны шлях, а Маці Божая ахіне плашчом мацярынскай апекі.

*Станіслава Сідаровіч і Люцыя Лабэцкая з Воўпы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Алегу Яновічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем, каб жыццё было напоўнена толькі добрымі падзеямі, а на выбраным шляху, дзякуючы апецы Маці Божай, заўсёды панаваў моцны дух міласэрнасці і любові.

*Кола Жывога Ружанца МБ Нястомнай Дапамогі з Воўпы*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Віктару Велівісу і Сястры Пауліне**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем самыя сардэчныя пажаданні: Божага блаславення на кожны дзень, нястомнай апекі Маці Божай, шчодрых дароў Святога Духа і добразычлівых людзей побач. Няхай здароўе, радасць і спакой ніколі Вас не пакідаюць.

*Вернікі з парафіі св. Роха ў Грандзічах*

Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч**; заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**.
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4**; тэл. **(80152) 75-64-38**; **(8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by**. Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»**, ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Палііграфістаў, 4; нумар заказу 5822; тыраж 5045; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты. Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная